# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 32 (1171) ГОД XXIII БЕЛАСТОК, 6 ЖНІЎНЯ 1978 г. ЦАНА 60 гр.


# Будучыня ў прыгажосці

У гербе Супрасля віднеецца кудлатая галава зубра і змяя, спавіваючая сваім пакручастым целам крыж. Гэтыя знакі-сімвалы цалкам адпавядаюць мінуламу, сённяшняму і будучаму мястэчка. Яно ж ляжыць у самым сэрцы вялікага ляснога масіву, што свой радавод бярэ з колішніх Блудаўскай і Крынкаўскай пушчаў, у якіх праўдзівымі валадарамі непраходных нетраў якраз і былі зубры. Яны хадзілі тут цэлымі чарэдамі яшчэ ў XVI—XVII стагоддзях, але потым саступілі месца людзям, каб зноў паявіцца тут аж праз трыста год. Цяпер нярэдка на лугах над Супраслю ці Сакалдой можна вока ў вока спаткацца з гэтымі ляснымі волатамі. Трапілі яны сюды некалькі год таму назад са свайго матачніка ў Белавежы, прыжыліся, адчуваюць сябе, бадай, не горш, як іх даўнія продкі. Лясной прасторы маюць уволю, а працаўнікі Супрасльскага надлясніцтва вельмі пільна дбаюць, каб расшырыць яе, садзячы ўсё новыя сотні гектараў маладога лесу на пустэчах, няўдобіцах, на здадзеных у ПФЗ сялянамі слабых землях. Найгорш толькі з людзьмі: аграмадная гара беластоцкага сметніка каля Саўлянаў сваім дымам і сажай пачынае пагражаць красе ляснога возера Камоса і смалістым навакольным барам, турысты таксама робяць усё магчымае, каб затаптаць, засмяціць, знішчожыць усё чыстае, жывое і прыгожае. Але Супрасль бароніць лес як толькі можа. Гэта ж тут паўстала такая дасканалая лясная сцежка здароўя, па ўзору якой арганізуюць такія аб'екты па ўсёй Польшчы.

І калі ўжо гаварыць пра здароўе, сімвалам якога ў супрасльскім гербе з'яўляецца змяя — такая сабе тутэйшая верасоўка, то, бадай, невыпадкова амаль пяць стагоддзяў назад умудроныя таемнымі ведамі манахі з Кіева-Пячэрскай лаўры выбралі на манастыр якраз урочышча Сухі Груд над Супраслю непадалёк ад дрыгвястага багна Цілічанка. У сваіх раскошных агародах і садах супрасльская брація вырошчвала не адно манастырскія агуркі ды мядовыя грушы-бабы, але і мноства лекавых раслін. Усё гэта і спавіло Супрасль легендай аздараўляючага з немачы месца. Самыя вялікія навуковыя аўтарытэты нашай краіны поўнасцю пацвярдзілі яе праўдзівасць: Супрасль і яго наваколле мае выключнай каштоўнасці аздараўляючы мікраклімат, а баравіны з багна Цілічанка валодаюць неацанімымі лекавымі ўласцівасцямі. Праз некалькі год тут пачнуць вырастаць гмахі санаторыяў. Пасля таго, як па ўсёй рацэ Супраслі ўверх ад мястэчка будуць праведзены адпаведныя забяспечваючыя працы і пабудаваны аб'екты па ачышчэнню стокавых водаў з гарадоў Саколкі, Міхалова, Гарадка, тады каля мястэчка паўстане коштам сама меней мільярда злотых аграмаднае, бо на абшары 1500 га, вадасховішча, з якога піццевая вада па спецыяльных трубаправодах пойдзе ў Беласток. Вакол вадасховішча паўстануць калоніі дачаў, а яго прастора будзе выкарыстана для розных відаў воднага спорту. А каб брудная сцёкавая вада з самога мястэчка і гэтай безлічы новых санатарыйных і адпачынкавых аб'ектаў не траплялa ў вадасховішча ці ў раку ніжэй яго, яна па спецыяльнаму трубаправоду будзе пампавацца аж у Беласток і там пойдзе разам з іншымі забруджаннямі ў вялікую беластоцкую ачышчальню, да ўзвядзення якой ужо ідзе падрыхтоўка. І добра: напаскудзіў, дык і прыбяры...



Супрасльскі сасновы бор выходзіць вам на спатканне.

А паганіць гэтых ваколіц проста немагчыма, бо яны з'яўляюцца жывым скансенам нашай гісторыі і мастацтва. Не магу ўстрымацца, каб не прыгадаць хоць бы некаторыя аб'екты старажытнасці, знакам якіх у гербе ёсць крыж. Каля вёскі Навадворцы, непадалёк таго месца, дзе хутка вырасце галоўная плаціна Супрасльскага вадасховішча, знойдзены прылады працы чалавека з каменнага веку, якім менш-больш ад сямі да дзесяці тысяч год. Цудам выратаваныя ад знішчэння фашыстамі фрэскі сербскага мастака Нектарыя, якія здобілі тутэйшы сабор, узведзены ў XVI стагоддзі і ўзарваны гітлераўцамі ў 1944 годзе, цяпер знаходзяцца ў рэстаўраваным супрасльскім Архімандрыцкім палацы з XVII—XVIII стагоддзяў. У цэнтры мястэчка яшчэ стаяць абноўленыя домікі, у якіх жылі фабрычныя рабочыя ў мінулым стагоддзі. Супрасльскі пластычны ліцэй памяшчаецца ў былым палацы фабрыкантаў Бухгольцаў — чароўным помніку архітэктуры эпохі Сецэсіі. Калі з нагоды Дзён Супрасля, што праходзілі ад 1 па 4 чэрвеня бягучага года, дырэктар Супрасльскага гмінна-гарадскога асяродка культуры Барбара Малышка арганізавала выстаўку мясцовага народнага і аматарскага мастацтва, у трох абшырных залах было аж цесна ад экспанатаў. Народныя ткачыхі і рукадзельніцы Валянціна Кастэцкая з Лазняў, Людміла Матэйчук з Агароднічак, Ма-

(Працяг на стар. 4)



У НАШЫМ ФОТААБ'ЕКТЫВЕ. *Новы жылы блок па вуліцы 1 Мая ў Гайнаўцы.*

*Фота Я. Целушэцкага.*

# Піянеры ў гарцэраў

На ўскраіне горада Беластока, там дзе квартал Беласточак, знаходзіцца пачатковая школа № 26 імя Станіслава Сташыца, а ў гэтай школе ўжо трэці год падрад Беластоцкая харугвія Саюза польскіх гарцэраў наладжвае ў час канікулаў лагер адпачынку для вучняў з вёсак Беластоцкага ваяводства.

— На працягу гэтых трох год, — кажа дырэктар гэтай школы **Ян Гаршляк**, — пабывалі ў нашым лагеры дзеці з усіх гмін Беласточчыны. Зараз, для прыкладу, на чарговай аднатыднёвай змене знаходзяцца гарцэры з гмінных школ у Сямяцічах, Нурцы, Гайнаўцы, Боцьках і Харошчы.

— Адначасова з нашымі вучнямі, — гаворыць жонка дырэктара, настаўніца гэтай жа школы Галіна Гаршляк, — кожны год у час двухтыднёвай пабыўкі адпачываюць у нас піянеры з Гродзенскай вобласці.

Групай піянераў у час іх пабыўкі ў Беластоку апекавалася **Галіна Болтач** — другі сакратар Раённага камітэта камсамола ў Навагрудку.

— У нашай групе, — кажа яна, — знаходзіцца 19 піянераў. Яны прадстаўляюць усе раёны Гродзенскай вобласці і горад Гродна. Мы прыехалі ў Беласток на аснове ўжо традыцыйнага прыгранічнага абмену між піянерскай і гарцэрскай арганізацыямі Беластоцкага ваяводства і Гродзенскай вобласці. Аднак на гэтую паездку трэба было заслужыць выдатнай навуковай і актыўнай грамадскай дзейнасцю. У нашую групу ўключаны некаторыя старшыні піянерскіх атрадаў, члены саветаў піянерскіх дружын, выдатнікі мастацкай самадзейнасці, лепшыя спартсмены.

Час іх праходзіў на супольных экскурсіях па гораду і ваяводстве, на пабыўках у музеях, тэатрах і кіно.

— Наладжвалі мы, — кажа настаўніца Галіна Гаршляк, — шматлікія супольныя гульні і спаборніцтвы. Праводзілі конкурс на найлепшае выкананне піянерскіх, гарцэрскіх і салдацкіх песень.

А пры гэтым усім, у перапынках між гульнямі, у час супольных паездак, вядома, як сярод дзяцей — цікавых усяго, што новае і далёкае, — заводзіліся пастаянныя гутаркі пра тое, як у нас, а як у іх. Трэба было бачыць, з якім зацікаўленнем слухалі нашы гарцэры расказ Ларысы Усенка з навагрудскай школы № 4 пра штодзённую працу піянераў.

— Наш атрад, — гаварыла яна, — носіць імя Міхаіла Белаша, які ў час вайны летам 1944 года непадалёк ад Навагрудка ля вёскі Купіскі паўтарыў подзвіг славутага Матросава і ўласнай груддзю закрыў кулямётную амбразуру варожага дзота і гэтым самым дазволіў атрадам савецкіх байцоў паспяхова выканаць загад камандавання.

Дзеці даведаліся, што ў Навагрудку знаходзяцца шматлікія заводы, а між

(Працяг на стар. 5)



*Намеснік камендaнта Беластоцкай харугвіі ЗГП Ян Дваракоўскі ўручае памятны вымпел Галіне Болтач, якая ўзначальвала групу піянераў з Гродзенскай вобласці.*

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ.

## ЧОРНАЯ ВІЛА

(працяг)

### III. Ноч. Ноч.

1.

*Ноч: стаяць глухія сцены,*
*Зорным небам дах пакрыты*
*Ды заткнуты ў кроквах венік*
*На будынку — чорнай віле.*

*У пакоях ціха-мяккіх*
*Дрэмлюць дрэвы. Спіць каменне,*
*Засланіўшыся імхамі;*
*Толькі чэрапамі свеціць.*

*Разлажылася выгодна*
*Між дарогамі да шчасця*
*Ўсё ахрышчанае поле —*
*Спіць глыбокім сном пясчаным.*

*У папоцемках вільготных*
*Брагай смачнага пахмелля*
*Расцякалася паўсоннае*
*Цела цёплай чорнай рэчкі.*

2.

*Ноч — штодзённая будоўля:*
*Як пагоня за няўлоўным,*
*З пазяханняў чорнай прорвы,*
*З таямнічых нітак Арыядны.*

*З круглых бэлек пажаданняў,*
*З лабірынтаў, як дыямант,*
*Сцен, абвешаных маўчаннем*
*Непрыкметнай Чорнай Дамы,*

*І з балеснасці кахання,*
*Нечаканага заўчасу,*
*Распасцёртага нястрымна*
*Нейкаю заслонай дымнай*
*Над жыццём кароткім нашым;*

*І з парогаў невядомых,*
*За якімі — паміранне,*
*Ў чорнай віле, гэтым доме,*
*На саломе: сном пацвілым.*
*Не запозна — не зарана!*

3.

*Ноч — не віла, а палаца,*
*Запаветная зямля для рэчаў,*
*Для замучаных прадметаў*
*Не пад сілу чорнай працай.*

*Рухне дзень — і ўсе кагалам*
*Хціва падаюць, ляцяць*
*На зямлю, са стогнам-жалем:*
*„Адпачынку мала! Мала нам!"*

*Спяць — не спяць: навыварат, наўгад,*
*Тронкі вырваўшы з зацiску гора...*
*Іх жыццё ох, цвёрды мае лад!*
*Бо яны ўсе — дзеці Піфагора.*

*А цяпер ніхто над імі не крычыць —*
*Ткліва пазіраюць, выцягнуўшы формы:*
*Хоць шурпатасць хочуць зберагчы*
*І сабе — для сувязей і для патомных.*

4.

*Ноч — шчаслівае жыллё!*
*Без бяды клубіцца радасць.*
*Вабіць пышнасцю яно здалёк,*
*Быццам даўняя Элада.*

*Курыцца над вілай фіміям,*
*Варыцца нектар у кадзях,*
*Смертныя па тэлевізару глядзяць*
*Паўтарэнне іх шматзначнай драмы...*

*Цішыня, спакой — унізе, на гары —*
*Часу мернага не зловіш тупат...*
*Толькі чутна ледзь, як голыя звяры*
*Паядаюць свежую цыкуту.*

*Смокчуць, нібы з сотаў мёд,*
*У парыве несвядомым і трывожным.*
*І таемны сверб, як велічны намёк,*
*Адчувае паасобна кожны.*

**Ян Чыквін**



Паявілася ўжо ў мінскім выдавецтве „Мастацкая літаратура" кніжка белавежца Сакрата Яновіча „Сярэбраны яздок". Віншуем!

## Да беларускага слова

Беларускае слова, ты мая айчына! Мой сон ля акна цветаліпнёвага, у раніцу пчаліную. І пошум пушчы стрункахвойнай, і весялосць густазялёная. Ты, як дзяцінства, ідзеш за мною.

Слова матчынае, ты мая сляза! Мая трывога ў вечары кахання чыстаквяцістага, у садзе юнацтва. І чарнабрывы позірк дзяўчыны сарамлівай, і бяссонне зорнае. Ты, як лёс, паўстаеш у даляглядзе нязбытым.

Слова роднае, суме мудры! Мая радасць неўгамонная, што часамі лунае вясёлкаю на небе краіны майго прызначэння. І няспешна павучаеш мяне жыць сваім розумам, і гасцінцам ісці шырокім праз гады, раз даныя. Ты, як сябра шчыры, не пакінеш у няшчасці.

Табе я, слова беларускае, веру і кланяюся!

**С. Яновіч**

## ЧАМАДАН

Аблітай сонцам вуліцай Беластока плёўся малады чалавек, наўючаны чамаданамі. Малады чалавек быў спацелы і вельмі, вельмі сумны.

— Значыць, выязджаю, — шапнуў бедны малады чалавек. — Маё жыццё зламана. Прыпыніўся пад ліхтаром, падпёрся і глыбока задумаўся.

Тым часам міма праходзіў крадзей Якуб Раздзірачук (былы, зрэшты, граф на Кабылянцы) і, зразумела, забраў адзін чамадан, большы, як кампенсацыю ад народнай улады.

Малады чалавек ачнуўся. І павандраваў далей.

— Які ты цяжкі! — скрыпнуў Чамадан ручкай. Малады чалавек варухнуў велізарнымі вушамі.

— Ты страшэнна цяжкі, ідыёт! — зароў Чамадан. Па спіне маладога чалавека забегалі мурашкі.

— Ну стань! — Вуха баліць!

Малады чалавек здрантвеў і выпусціў з пабялелай рукі жудасны чамадан.

— Ай, гуза мне набіў!

Малады чалавек кінуўся ўцякаць без аглядкі.

2

Бег, а здавалася яму, трухаў. Калі ўжо сіл не стала, аглянуўся. У дзесяці метрах за ім скакаў задыханы Чамадан.

Малады чалавек сцёр пот з ілба дрыжачай рукой.

— Гэта не на мае нервы, — прахрыпеў.

Тым часам адкуль не вазьмі паявіліся дзве дзяўчыны: маладая, падобная на старую, і старая, падобная на маладую.

— Ах, Коленька, гэта ты! — соладка заспявала старая.

— Не, гэта не я, — вышаптаў Коленька.

— Коленька, рыбанька, выбраўся ў падарожжа? А дзе твой чамаданчык, га?

Чамадан пакаціўся ў вароты найбліжэйшага дома. Сутыкнуўся з маладой дамай у расшпіленым футры.

— Ах, гэта ж чамадан Колі! Змыўся ад Зоські, а чамадан пакінуў! Ну і дурань!

Дама схапіла чамадан за вуха і пайшла па лесвіцы.

А малады чалавек тырчаў між дзіўнымі дзяўчынамі.

— Коленька, міленькі, хадзем!

— Ідзіце да пекла, малпы скубаныя! — гукнуў Коля.

— Ну, справакаваў, — прашыпела змяіным сыкам старая, падобная на маладую.

Маладая, падобная на старую, схапіла Коленьку за крысо і патрасла так моцна, што выпаў з пінжака, як галушка. Старая ўдарыла, божа мой, Коленьку ў жывот. Беднeнькі грымнуў на тратуар ужо, як дзіўнае, не да ідэнтыфікацыі цела. Ах, якая гэта лютасць! Аж пісаць страх, пяро дрыжыць. А вы думалі, Беласток горшы ад Нью-Йорка?!

3

Задыханая дама ўцягнула чамадан у пакой. Паставіла яго пад акном. Чамадан агледзеўся па пакоі. Панаваў тут вялікі балаган. „Напэўна, артыстка", — падумаў чамадан.

Тым часам дама сцягнула футра, пад сподам, зрэшты, палатанае, і кінула на стол. Зняла высачэзныя боты і шпурнула ў куток, зачапіўшы абцасам чамадан.

— Ідыётка, — буркнуў ад болю.

— Зноў пачынаю з самакрытыкай! — голасна засмяялася дама.

Пайшла ў ванную, а Чамадан трошачкі паварушыўся, каб выпрастаць косці. Дама вярнулася з валахатым ручніком на сцёгнах і ў бюстгальтары з парванай шлейкай.

— Выглядаеш агідна! — сказаў Чамадан з'едліва.

— Ну што ты! Максім, дзе ты схаваўся?

Дама падбегла да шафы і заглянула.

— Ты тут, Максімка?

З шафы вываліўся клуб загранічных лахманоў, такі вялікі, што дамы і не відна было. А клубы лахаў, раслі і раслі, а з іх даходзілі прыдушаныя воклікі.

Чамадан ускочыў на акно.

— Ну што ж, буду самазабойцам!

І кінуўся з акна стрымгалоў!

4

Чамадан ляжаў на баку, стогнучы ціха. Побач стаяла многа людзей і ляжаў чалавек, бессаромна голы ад галавы да пят, з гузам на галаве, вялікім на двухлітровы кубак.

— Добра яму так, не будзе лётаць голы па Беластоку, — захіхікаў Чамадан.

— Здаецца, цяпер такая мода, — піснула абураная тоўсценькая пані з сярэбраным відэльцам на капялюшы.

— Кара божая, — шапнуў ксёндз, хаваючы галаву пад локаць.

„Праўда, я ўпаў проста з неба", — падумаў Чамадан.

Малады міліцыянер схапіў Чамадан за ручку і занёс у камісарыят, як адзінага віноўніка.

5

Чамадан замкнуўся ў сабе і не хацеў адчыніцца. Ніякі ключ, ніякая адмычка не памаглі. Русы, загарэлы міліцыянер грыз пальцы.

— Мала, што я яго цягнуў два кіламетры, а ён нічога не скажа!

— Вы ж мяне не пытаеце, — заўважыў Чамадан.

— Я... Я хіба звар'яцеў! — схапіўся за галаву міліцыянер.

— Я ж не ведаю.

Міліцыянер стаў хадзіць, пакуль не сеў на крэсла, дзе мышкі елі снеданне. Штосьці страшэнна віснула, і з-пад шэрых калашын выскачыў вялізны, рыжы, здаравенны кот. Кот зароў і кінуўся ў адкрытае акно.

Міліцыянер ахнуў і самлеў.

— І такі ловіць бандытаў, — пацiснуў плячыма Чамадан.

Падскочыў да міліцыянера і пачаў яго раздзяваць.

**Міраслава Лукша**

## СВЯТАЯ НОЧ

8

*Са страхам і верай*
*стаю на калені,*
*б'ю ночы паклоны*
*пад падсвечнікам неба,*
*малюся да дрэў*
*— успрыміце маленне,*
*адпусціце грахі*
*майго дзённага быту,*
*што саграшыў*
*не сваёю малітвай,*
*акадзіце надзеяй,*
*трывогай і верай,*
*каб мераць я змог*
*справядліваю мерай,*
*прычасціце лістом*
*са святых вашых чашаў —*
*целу трэба душы,*
*душы — чыстасці вашай.*

9

*Зноў мы разам.*
*Дай стукнемся чарамі*
*мараў гарачых,*
*за еднасць да дна*
*ашалелае шчасце*
*давай перахілім*
*пакуль не чудачым,*
*бо ўдзень мы жывем*
*не сабою,*
*іначай,*
*днём нас няма*
*адны толькі шкілеты,*
*абвешаны розумам,*
*мудрасцю боскай,*
*ствараючы славу*
*уласнаму свету,*
*з нянавісцю дзікай*
*спрачаюцца ростам.*

**Міхась Шаховіч**



##  РОСЫ 

Якія зімныя росы
над раннем
Босая хадзіла
перад усходам сонца
глядзець на Нарву
клялася яе
водам
вернай быць
як маці
як зямлі.

**В. Леанюк**

*

Прыду я адвячоркам
і стану пад грушай сіняй
і буду глядзець
у бок тваёй хаты
і калі прыдзеш урэшце
мы пастаім хвіліну
а пасля сядзем на момант
ды ўрэшце ляжам надоўга
скажу чаму нам так люба
у травах мяжы аставацца
можа з яе у нашы целы
сочыцца любчык кахання.

*

Загляньце у нашу радасць
як у крыніцу
можаце тут напіцца
або не піць ані кроплі
мы не настаўнікі шчасця
а тэрмінатары-вучні
і радасцю мы не гандлюем
збіраем яе у айчыне
добра нам сёння — смяемся
як дрэнна будзе заплачам
любім мы моцна сёння
ды і заўтра нас не палохае
мы хочам мець смутак і радасць
ды не мусім мець рацыі
мы не Марксы

*

Павесь на галіне
сукенку кашулю
і рэшту павесь таксама
глянь як распрануўся ранак
мы ж самыя бедныя ў свеце
бо толькі сябе мы маем
бедных каханкаў
мы пакаленне
дык і шкада нам адзення
распраніся
прыкрыемся цёплым маем

**Алесь Барскі**

(Працяг са стар. 1)

## Будучыня ў прыгажосці

рыянна Тапалевіч з Саўлянаў, Анна Бурак з Цеснага і шэраг іншых паказалі дываны, пасцілкі, абрусы, мноства карунак, вышывак, мярэжак і ім падобных цудоўнасцей. Януш Дарашкевіч з Супраслі захапляў наведвальнікаў вычараванымі з камлёў, кораняў і нават галінак постацямі і кампазіцыямі, якіх не пасаромеўся б і мастак-прафесіянал. Янка Кішкель з Ліповага Маста і Аляксандр Пех з Агароднічак паказалі карціны, што нарадзіліся пад іх пэндзлямі, асноўны іх аб'ект — гэта родныя краявіды, дзе стройная кібіць супрасльскай сасны з'яўляецца цэнтральнай тэмай. Так, ачаравала тутэйшых людзей краса, натхняе іх і па сённяшні дзень...

Накіруйцеся ў Супрасль: захмялейце ад жывічнага паху бору, адкрыйце для сябе веліч творчых здзяйсненняў колішніх і сённяшніх мастакоў і пакіньце ў струменях лясных рачулак сваю стомленасць жыццём!..

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара



*У гэтых мурах Архімандрыцкага палаца вас чакаюць славутыя супрасльскія фрэскі.*

## Ці ведаеце, што...

...у Польшчы ў пачатковыя школы даязджае звыш паўмільёна вучняў.

...у нашай краіне ад новага навучальнага года першакласнік будзе ў сваёй сумцы насіць аж 16 кніжак.

...у Беластоцкім ваяводстве ёсць усяго 4300 начлежных месц. У гэтым сезоне былі перададзены ў карыстанне заезны дом у Плёсках, а таксама павялічылася колькасць начлежных месц у прыватных памяшканнях у Драгічыне, Сямяцічах, Сідры, Белавежы і Суражы. Святочны адпачынак будзе арганізаваны ў Васількове, Дайлідах, Юроўцах, Войшках, Лапах, Рыбаках, Нараўцы, Мельніку і Саколцы. Усе цэнтры нядзельнага адпачынку будуць значна лепш забяспечаны турыстычнымі рэчамі: байдаркамі, воднымі веласіпедамі, палаткамі, матрацамі, лежакамі і рознымі мячыкамі.

...на Беласточчыне ў гэтым годзе арганізаваны тры курортныя вёскі: у Бранску, Боцьках і Каянцы. Да 1980 года будзе іх 10.

**(ця)**

## Так бывае...

## ЗАМЕНА

У неспакойны і цяжкі яшчэ ваенны час у пачатку 1945 года Іван Міхалюк з Чыжоў зрабіў дагавор са сваім будучым шваграм Васілём Паўлючуком з Лядаў у справе замены. На ладах дагаварыліся ўсе пры бацьках і сведках, што замена будзе роўная. Пастаноўлена было: калі Іван ажэніцца з Васілёвай сястрой Ольгай, а Васіль ажэніцца з Іванавай сястрой Кацярынай, то Ольга пакіне ўсю гаспадарку свайму брату Васілю, а таксама і братовай Кацярыне, а Кацярына пакіне сваю гаспадарку для свайго брата Івана і для братовай Ольгі. Неўзабаве адбылося вяселле, а пасля вельмі хутка Іван захварэў на грузліцу лёгкіх і нырак. Па гэтай прычыне шмат гадоў правёў у розных бальніцах і санаторыях. Ольга сама вымушана была араць, сеяць і малаціць цэпам. Будынкі былі дрэнныя, гнілыя. Самой жанчыне давялося будаваць мураваны хлеў. Трэба было таксама многа грошай на дарагое амерыканскае і англійскае лякарства. Словам, няшчасце спаткала сям'ю Міхалюкоў з Чыжоў праз прамучаных 18 гадоў пасля вяселля. Здарылася ім найгоршае пекла позняй восенню 1963 года, калі апоўначы ўспыхнуў пажар і згарэла старэнькая хатка, з якой цудам выратаваліся тры асобы. На пажарышчы асталіся толькі недагарэлыя асмалкі, бо нічога не ўдалося выратаваць. Крыўдна было пагадзіцца з лёсам, астаўшыся без уласнага кутка, калі мароз прыціскаў штораз то горш. Кацярына Паўлючук з Лядаў, замест дапамагчы пагарэўшаму хвораму брату, пачала яго цягаць яшчэ па судах, каб забраць сабе адшкадаванне за спаленую братаву хату ў суме 18 000 зл. і за яго ўласныя рэчы ў суме 22 000 зл. Разам страты ПЗУ ацаніў на 40 000 зл. Бачачы ўсё гэта, сусед цераз вуліцу злітаваўся і прыняў сям'ю Міхалюкоў у сваю хату, дзе стаўклі пагарэўшыя аж два гады, дарэмна чакаючы адшкадавання, каб змагчы пабудаваць свой кут.

Востра нарэзалася Кацярына на брата Івана, роўна два гады мучыла яго судамі. У судзе Івану прыслугоўваў бясплатны дзяржаўны адвакат, але калі трэба было з'явіцца ў суд, адвакат нейк пераказваў справу свайму сябру, а той не ведаў, калі мае быць, або зусім спазняўся. У канцы канцоў суд адшкадаванне выплаціў Кацярыне. Да таго яшчэ прысудзіў ад Івана сплату Кацярыне ў суме 48 000 злотых. Становішча, у якім апынулася пагарэўшая нешчаслівая сям'я, было нязноснае. Падатак залягаўся датуль, пакуль не перавысіў 18 000 зл., а тады ўжо было перанята за залегласці на скарб дзяржавы 2,5 га зямлі, за якую ўжо ўперш чалавек астаўся вінаваты сплату сястры. Пра звязанне канца з канцом не было мовы, бо секвестратары заглядалі ў хлявы. І так Іван з бядой вымушаны быў узяць пазыку на пабудову дома і стадолы ў суме 115 000 зл. Потым, як вырас сын, то пераняў падупаўшую гаспадарку і расплачваецца з даўгамі, якіх найбольш у вёсцы толькі ён мае. А Іван ужо тры гады працуе ў спулдзельні інвалідаў у Гайнаўцы. Увесь час Кацярына пасылае каморніка, каб той адлічваў ад Івана з зарплаты прысуджаныя ёй яшчэ 46 000 зл. сплаты. Кожны месяц адлічвае каморнік па 900 злотых. Кацярына жыве сабе лёгка, мае новыя будынкі. А Іван з жонкай Ольгай праліваюць слёзы. Усе людзі ім спачуваюць, але ніхто не можа дапамагчы.

*Каця, Каця сястра родна,*
*Лепш жыла б са мной ты згодна!..*

**Я. М.**

## Майстар на ўсе рукі!

### ЧЭСЛАЎ БЯЛЯЎСКІ

Жыве ён на хутары ў Вераб'ях, гміны Гарадок, быццам на дачы. Кругом многа дрэў і рэчка па-суседску.

Калі наведаеш яго, кідаецца ў вочы мноства сельскагаспадарчых машын. Нічога ў гэтым асаблівага не было б, таму што нашы сяляне маюць цяпер шмат сельскагаспадарчай тэхнікі, каб не тое, што некаторыя гэтыя машыны яго ўласнай канструкцыі і прадукцыі.

Вось, напрыклад, машына для пасадкі бульбы, якая служыць яму трэці сезон. Сам ён зрабіў кош на бульбу. Шасцярня і ланцугі падыходзілі ад снопавязалкі, а рэгулятары і зачэп дапасаваў ён ад двухскібовага трактарнага плуга, воські і валы паводле яго канструкцыі зрабілі яму ў такарні. Толькі абсталяванне для выкідвання бульбы купіў ён у „Агроме" ў Беластоку.

— Маёй машынай па растрэсеным гноі адразу можна садзіць бульбу і прыворваць гной, у той час, калі машына фабрычнай прадукцыі патрабуе, каб гной быў прывораны, — даказвае Чэслаў Бяляўскі.

У Бяляўскага ёсць таксама машына для растрасання гною ўласнай канструкцыі, прычэп для важэння калодак з лесу (у яго 10 га лесу). Сеўнік для збожжа ў яго вельмі шырокі, бо аж 3,5 м. У СКРы ў Залуках купіў Бяляўскі два сеўнікі, якія прызначаны ўжо былі на злом, і зрабіў з іх адзін добры сеўнік.

Чэслаў Бяляўскі мае шмат машын фабрычнага вырабу, уключна з малацільным агрэгатам і трактарам. І ўсе гэтыя машыны сам ён рамантуе, калі што папсуецца. Апрача тэхнічных здольнасцей, Чэслаў Бяляўскі хаця закончыў ён толькі пачатковую школу, і добры будаўнік. Сам ён быў майстрам будовы вялікага гадаўлянага будынка даўжынёю 24 метры і шырынёю 9 м. У гэтым памяшканні ў яго стаіць 90 свіней, 5 кароў і адзін конь. Мае ён ужо карту па спецыялізацыі ў свінагадоўлі. Працы многа. Але і даходу многа. У працы найбольш дапамагае яму жонка. Яна корміць свіней, якія маюць спецыяльныя кармілкі. Вада падаецца гідрантам у хлеў. Сам абсталяваў яго ў калодзежы Чэслаў Бяляўскі. Шмат работ у яго механізавана. Карыстаецца ён, між іншым, электрадаілкай.

Ёсць пэўная дапамога і ад старэнькага бацькі, якому ўжо за 80 год, а таксама ад трох сыноў-школьнікаў, якія падчас канікул і ў вольны час дапамагаюць бацьку і пры жывёлагадоўлі і пры апрацоўцы 20-гектаровай гаспадаркі.

Тэкст і фота **М. Хмялеўскага**



## З маёй званіцы

## Музыкі

Аркестр, памясціўшыся на зробленай з дзвярэй стадолы сцэне, роў ужо з паўгадзіны. Двое з перавешанымі праз плячо гітарамі верашчалі ў мікрафон, трэці, то круцячы, то ківаючы галавою, быццам біў паклон сваёй музыцы, валіў у барабаны. А ля святліцы вылі матацыклы, пішчалі тармазы машын. Даведаўшыся з парасклейваных па ўсёй ваколіцы самаробных плакатаў-запрашэнняў, з'язджаліся любіцелі музыкі і танцаў. Аркестр рубаў, і то так, што нават у другім канцы вёскі з пачаткам кожнага новага танца зрываліся з дзікім крыкам з гнёзд вароны і доўга-доўга кружылі, пакуль знайшліся першыя адважныя сесці. Білецёр, апаражніўшы невядома каторую бутэльку піва, што прадавалі тут з немалой накідкай, стаяў у дзвярах ды падшчыпваў праходзячых дзяўчат, радасна шчырачы пры гэтым зубы. Мясцовых прапускаў дарам. Так, зрэшты, было прыгаворана. Ды паспрабуй не прапусці, а асабліва жанчын, дык такую апінію выставяць, што век людзям на вочы сорамна будзе паказацца. О, вунь, як стары Ігнат сабаку Яўдосінную выганяючы са свайго куратніка, прыбіў, дык тая як пусціла пагалоскі, што ён нібыта шкуры з сабак здзірае, то яшчэ па сённяшні дзень мясцовыя, праходзячы ля яго хаты, гаўкаюць і пальцамі паказваюць, а тут то і мовы няма. Яны ж тут найважнейшыя. Яшчэ на добра музыкі не раскруціліся, як яны ўжо, сплёўшы на грудзях рукі, стаялі пад сценамі ды пераказвалі адна другой свае каментарыі адносна таго, хто з кім і як. А тая то, моў, апранута так, а гэтая о' як танцуе, а тая адкуль гэта такая і чыя яна будзе.

— Ты глянь, Олько, на Міхалёву, — гаворыць суседцы Манька. — Бадай яе ўжо халера, налажыла спадніцу на дзве пядзі, аж зызу відаць, і выкручваецца, як ліхое нейкае. Што за бацькі? Я сваёй вушы паабрывала б. То ж проста на смех людскі. І што ж тут хлопцаў вінаваціць, калі цяпер дзяўчаты самі проста нахальна лезуць.

— Ага! І стыду ніякага няма. Антыхрыст ужо ўмяшаўся. Та калісьці, памятаеш, — тлумачыць Олька, — наложыш саян, што ледзь толькі пяты відаць, а ўжо барані бог, каб калена дзе паказалася. Ды і танцы як танцы былі — полька, казачок, а то, як чэрці, скачуць, адно другому пад нос кулакамі соваючы, або нагамі, як цяля, што з хлява вырвалася, выкідаюць. Каб так калісьці, як цяпер Дуньчына, вымахвала я рукамі, дык адразу па бабах павязлі б. Прыдурак чысты.

— Ну ўжо тая Маньчына і апранулася, чупірадла нейкае. На галаве хоць ты гняздо рабі, спадніца да самай зямлі. Не пасуе ўжо так, — крычыць Міхаліха крыху глухаватай Іванісе.

— Ты глянь, глянь, Явдосё, Дзям'янава зноў з якімсьці іншым кавалерам! О то-то валазюга.

А зала аж гудзе, скачуць, быццам тыя каровы ў табуне, у які ўляцеў гез. Курава стаўбом. З-пад ног сыплюцца іскры гашаных у танцы папярос. У некага з кішэні вылецела бутэлька і па зале расплыўся гарэлачны арамат. Там у кутку ругаюцца і за кляпы бяруцца. Хтосьці паляцеў. Духата — аж з ілба цячэ. Асабліва відаць гэта па дзяўчатах, па іх размазаных вачах. Білецёр, выпусціўшы са жмені свае білеты, сядзеў, пасалавеўшы, на скрыні і соваў бутэлькаю, стараючыся папасці ў рот.

Раптам, распіхаючыся, уляцеў у святліцу, махаючы абарваным ад кашулі рукавом, Ваня, якога, таму што не хапала вялікага пальца, мясцовыя музыкантам звалі.

— Хлопцы! Нашых б'юць! — зароў ахрыплым ад перапою голасам. — Але даў бы аднаму. Яго шчасце. Я як замахнуўся, яго шчасце, што адскочыў.

Усе гуртам кінуліся на двор. Вайна была ў поўным разгары. Нехта шпурнуў каменем, хтосьці кідаў бутэлькамі з півам, затрашчалі астраколы. Умяшаліся і мужчыны. Хто астраколаю, хто ўручную, Васіль, збегаўшы пад стадолу, з цэпам пёр, Іван страшыў, што каб пачакалі, то ён гіру на пружыне прынясе, бо па дзеду засталася, але хутка замоўк, бо чутна было, як нехта астраколаю шпарнуў. Біліся. Ужо невядома хто з кім, але біліся. Нават свае паміж сабою, бо чуваць было, як Пятро з мацюком да Васіля кінуўся за тое, што дзесьці ззаду цэпам яго пацёг. Піск, крык. Бабы, быццам тыя гусі, з крыкам разбягаліся на бакі, калі толькі нехта кінуўся ў іх бок. Ваня-музыкант скакаў, як заяц, вакол б'ючыхся, вымахваючы з бяспечнай адлегласці рукамі. Нехта ўцякаў, нехта гнаўся. А аркестр іграў. Ды інакш і быць не магло, згоджаны. Могуць не заплаціць.

Зрабілася відна. Памалу ўзыходзіла сонца. Сям-там ляжалі п'яныя. На плоце вісеў нечы пінжак, хтосьці палямі ішоў у бок суседняй вёскі. Васіль, з падбітым вокам, хадзіў і збіраў уцалелыя астраколы, Іван шукаў у бульбе чаравіка. Нехта хадзіў па святліцы, шукаючы, ці нечага не пагубілі. Музыкі закончыліся.

**Бізун**



*У НАШЫМ АБ'ЕКТЫВЕ. Жніво. Фота Я. Целушэцкага.*

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астроне! Сніцца мне, што я на вёсцы ў бацькоў. Сядзім мы ў летняй кухні. Я абіраю бульбу. У той жа хвіліне ўваходзіць Мірэк (ён у нас ніколі не быў, я з ім хадзіла). Мірэк прынёс карціну. На ёй была фатаграфія чорнай дзяўчыны з адкрытымі грудзьмі. Ён спытаў, ці мы хочам яе купіць. Мае бацькі катэгарычна адмовілі. Я аднак хацела мець гэту карціну. Мірэк хацеў за яе толькі 7 зл. Я ўзяла яе. Ён сказаў, што са мною ён заўсёды дагаворыцца. Вельмі цешыўся, што я купіла гэту карціну. Грошы я мела заплаціць скарбніку-негру. Я выбегла яго пашукаць. Ужо я ў горадзе. Быццам у школе. Бягу на трэці паверх. У групе стаяць хлопцы і прыглядаюцца мне. Адзін з іх вельмі мне спадабаўся (я яго знаю). Хлопцы сказалі, што негр пайшоў у клас. Мне ніколі не сняцца сны. Што гэты дзіўны сон значыць?

Аня

**Аня!** Не вер Мірку. Ён прынёс табе карціну, на якой ты ўбачыла дзяўчыну з адкрытымі грудзьмі. Абазначала б гэта, бадай, тое, што ён хлуслівы ў адносінах да цябе (можа, мае нейкую іншую дзяўчыну?..) Але ты яго не бойся, ён яшчэ пашкадуе, што цябе ашукваў. Бо і тое, што ты хацела плаціць грошы, і тое, што скарбнікам быў негр, абазначае поспех у тваіх справах.

**Астрон**

## Сардэчныя тайны

Дарогае Сэрцайка, прашу даць адказ на мой ліст. Я яшчэ маладая і гэтай праблемы не магу вырашыць сама. Пяць месяцаў таму назад хадзіла я з Янкам. Мы вельмі кахалі адзін другога. І не спадзявалася, што ўсё гэта так хутка скончыцца. Янка пагневаўся на мяне, што я не прыйшла на спатканне. У той час, калі ён вызначыў спатканне, я была вельмі занятая. Прабавала яму гэта выясніць, але ён мне не прабачыў. І да гэтага часу да мяне не адзываецца. Ён напэўна знайшоў сабе іншую дзяўчыну. Я ёй вельмі зайздрошчу. Што мне рабіць? Я яшчэ яго кахаю. Не раз падумаю сабе, што напэўна яшчэ знайду сабе хлопца, мне ж толькі 16 год. Але здаецца, што Янка быў аднак найлепшым.

Ірэна з Б.

Ірэна, так вось бывае з каханнем у тваіх гадах — раптоўна ўспыхвае і хутка пагасае. Проста зарана яшчэ. Каханне сталага, сур'ёзнага трэба яшчэ пару гадоў пачакаць. Напэўна за гэты час правінецца яшчэ і некалькі хлопцаў, аж урэшце, як кажуць, трапіш на свайго. А каханне з дзіцячых гадоў астанецца ў памяці толькі ўспамінам.

**Сэрцайка**

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Ц. на аснове рашэння жыллёвага аддзела з'яўляецца наймальнікам кватэры, якая складаецца з трох пакояў і кухні. Дом з'яўляецца ўласнасцю Б. Ц. была прыдзелена кватэра, калі ён меў маці і трое дзяцей. Цяпер маці ўжо памерла, а дзеці выраслі, пажаніліся і маюць свае кватэры. Б. з жонкай пражывае ў цесця і хацеў бы мець сваю кватэру. Ці можа ён патрабаваць, каб Ц. апаражніў для яго два пакоі?

АДКАЗ: Паводле новага жыллёвага закону нават адміністрацыйная ўлада не можа забраць ад наймальніка частку кватэры толькі таму, што сям'я яго паменшылася. Тым больш не можа гэтага патрабаваць прыватны ўласнік, хоць бы памяшканне было звольнена з-пад публічнай жыллёвай гаспадаркі, калі наймальнік займае кватэру на аснове пастановы жыллёвага аддзела. Калі б кватэра была звольнена, адміністрацыйныя ўлады не маглі б супрацівіцца, каб уласнік мог заняць гэтае памяшканне. Калі б ён даставіў наймальніку іншае памяшканне, хоць бы і меншае, але адпавядаючае сямейным умовам наймальніка, або заплаціў за яго ўдзел у жыллёвы кааператыў, адміністрацыйныя ўлады мелі б абавязак перасяліць наймальніка на кошт уласніка дома.

Па меры сваіх магчымасцей, якія, як вядома, невялікія, адміністрацыйныя ўлады павінны перасяляць наймальнікаў, што займаюць кватэры на аснове адміністрацыйных пастаноў, калі ўласнік сам патрабуе кватэры.

## Лялькі-партнёршы

### Куток практычных ведаў

Ці заўважылі вы, як апрануты гэтыя дзяўчынкі і іх лялькі? Аднолькава! Як партнёршы. Сённяшняя мода настолькі шматколерная і разнастайная, што нават модныя сукенкі дарослых жанчын напамінаюць часамі шаты прынцэсы з казкі. А што ўжо гаварыць аб дзецях!

Перш за ўсё: нават 3- 4-гадовыя дзяўчынкі не выглядаюць сёння модна ў кароткіх сукеначках ці спаднічках. Даўжыня можа быць розная, абы не былі яны кароткія, ну, і ўсё ж лепш незадоўгія, каб не перашкаджалі дзецям бегаць, гуляць, свабодна адчуваць сябе і рухацца.

На сукеначку можна апрануць другую сукеначку, без рукавоў, з хвальбанкамі — нешта накшталт сарафанчыка. Калі ніжняя сукеначка (як на здымку) ў кветкі ці нейкія ўзоры, то верхняя можа быць гладкая.

Ізноў модныя кароткія шкарпэткі.

**Сяброўка**



## ТАЙНЫ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ




У блоку № 19, як я даведаўся пасля свайго прыбыцця, выраблялісе не толькі фальшывыя грошы, але і падробленыя дакументы, пашпарты і бланкі насведчанняў многіх нацый. Блок № 19 з'яўляўся прадпрыемствам галоўнага ўпраўлення імперскай бяспекі...

Усім зняволеным блока № 19 з самага пачатку было вядома, што гэта асобая каманда, якая называлася на лагерным жаргоне „камандай узнясення на неба", з'яўлялася камандай смяротнікаў, бо ўсе зняволеныя, што ўваходзілі ў яе, былі яўрэі ці людзі змешанай нацыянальнасці. Мы былі „носьбітамі тайны". Калі абодвух гэтых якасцей саміх па сабе аказалася б недастаткова, каб лічыць нас камандай смяротнікаў, то дадатковым пацверджаннем і доказам служыла наступнае. Пры лёгкай траўме, напрыклад, парэзе пальца, зняволеных адпраўлялі на амбулаторны прыём да ўрача, які не меў права сказаць ім нават адно слова. Цяжкахворых не дазвалялася класці ў бальнічны барак, нават калі мелася магчымасць вылячэння. Іх ізалявалі ва ўмывальцы, а калі гэта не дапамагала, ліквідавалі, г.зн. забівалі".

Матэрыялы, якія выкрывалі Кругера, Шміда, Швенда і іх шэфа Шэленберга, ужо гарой ляжалі ў галоўнай кватэры англа-амерыканскіх войск. Сам Вальтэр Шэленберг, які к таму часу знаходзіўся пад вартай у англічан, меў усе падставы не спадзявацца ні на што ў чаканні суда: тады буйным ваенным злачынцам чакаць літасці не прыходзілася. Аднак эсэсаўскі фальшываманетных спраў майстар Бернхард Кругер і яго „галоўбух" Роберт Шмід своечасова паспелі выкарыстаць падробленыя дакументы. Праўда, у іх наўрад ці былі шанцы застацца нязлоўленымі: занадта ўжо яўныя былі іх сляды, што вялі ў занятыя амерыканцамі раёны Германіі і Аўстрыі.

Ва ўсякім разе, калі Макнэлі перадаў свой выніковы даклад аб праведзеным ім расследаванні ў галоўную кватэру англа-амерыканскіх войск у Франкфурце-на-Майне, адплата ўдзельнікам гэтага бяспрыкладнага злачынства здавалася толькі пытаннем часу, які залежаў толькі ад поспеху іх пошукаў.

Нюрнбергскі прыгавор фашысцкай службе бяспекі быў да канца ясны. Служба бяспекі ва ўсёй яе сукупнасці прызнавалася злачыннай арганізацыяй. У адпаведнасці са статутам Міжнароднага ваеннага трыбунала арганізацыя СС таксама была аб'яўлена злачыннай. Тым самым быў у прынцыпе вынесен прыгавор таксама начальніку аднаго з упраўленняў службы бяспекі групенфюрэру СС Шэленбергу і яго блізкім падручным: штандартэнфюрэру СС Шміду, штурмбанфюрэру СС Хетлю, оберштурмбанфюрэру СС Скарцэні і штурмбанфюрэру СС Кругеру.

Прыгавор Міжнароднага ваеннага трыбунала павінен быў служыць кіраўніцтвам для ўсіх працэсаў ваенных злачынцаў, што адбыліся пазней у Нюрнбергу і сталі вядомыя пад назвай „наступныя працэсы". На іх судзілі вінаватых у цяжкіх злачынствах фашысцкіх магнатаў ваеннай прамысловасці, урачоў, юрыстаў, міністэрскіх чыноўнікаў, генералаў і вышэйшых чыноў СС.

Вось тут і аказалася, што стратэгічны варыянт, на ажыццяўленне якога разлічвалі заправілы СС і СД у „Альпійскай крэпасці", зусім не быў пахаваны. Адным з самых важных сярод гэтых крымінальных працэсаў, якія вяліся ўжо не Міжнародным ваенным трыбуналам, а толькі амерыканскімі суддзямі, была так званая справа № 11.

Перад амерыканскім ваенным судом паўсталі чатыры нацысцкія міністры і сем статс-сакратароў, а таксама рад іншых вышэйшых дзяржаўных чыноўнікаў гітлераўскага рэйха. Па назве берлінскай вуліцы, дзе размяшчаліся ў свой час галоўныя фашысцкія міністэрствы, працэс гэты атрымаў назву „працэсу Вільгельмштрасе". Працягваўся ён з 1948 г. да красавіка 1949 г. і належаў да ліку самых апошніх, якія адбываліся ў Нюрнбергу.

На лаве падсудных па справе № 11 сядзеў і начальнік зарубежнай сакрэтнай службы нацыстаў Шэленберг, а побач з ім — былы імперскі міністр фінансаў граф Шверын фон Крозіг і віцэ-прэзідэнт германскага „Рэйха-банка" Эміль Пуль, які шмат гадоў быў у змове з эсэсаўцамі. Паколькі гэтыя абвінавачваемыя таксама неслі асноўную адказнасць за транспарціроўку нацысцкіх мільёнаў за граніцу, якая пачалася восенню 1944 г., увесь свет чакаў, што на „працэсе Вільгельмштрасе" будуць да канца ўскрыты ўсе пытанні, якія засталіся яшчэ нявысветленымі.

Вялікі апарат амерыканскага абвінавачвання падрыхтаваў да слухання справы не менш як 550 тысяч дакументаў: папкі з імі займалі паліцы агульнай даўжынёй у 15 метраў. Абвінаваўцамі былі назначаныя вядомыя юрысты. У якасці галоўнага абвінаваўцы выступаў свежаспечаны брыгадны генерал амерыканскай арміі Тэлфард Тэйлар; яго намеснікам быў доктар юрыспрудэнцыі Роберт М. Кемпнер, які ўзначальваў абвінавачванне па справах палітычных устаноў гітлераўскай Германіі.

**(Працяг будзе)**

